Магістрат



«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ

№1 (25), студзень, 2004 г.

# «ПЯЦЁРКА ПЛЮС» ПРЭЗЭНТУЕ ПРАГРАМУ Й СЬПІС КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ




19 студзеня ў Менску ў Міжнародным адукацыйным цэнтры рэпрэзэнтавала свае мэты, праграму й папярэдні сьпіс кандыдатаў у дэпутаты на выбарах у Палату прадстаўнікоў, якія адбудуцца ўвосень гэтага году.

У сустрэчы прынялі ўдзел прадстаўнікі палітычных партыяў з розных рэгіёнаў краіны, актывісты палітычных і грамадзкіх рухаў, якія падтрымалі стварэньне НАРОДНАЙ КААЛІЦЫІ ПЯЦЁРКА ПЛЮС. Шмат хто зь іх будзе ўдзельнічаць і ў выбарах.

Аб'яднаньне ўдзельнікаў «Пяцёркі плюс» грунтуецца на перакананьні таго, што народ Беларусі мае права на годнае жыцьцё, на ўпэўненасьць у будучыні, на парлямэнт і ўрад, якія сумленна выконваюць свае абавязкі. Беларусь павінна быць незалежнай, дэмакратычнай і свабоднай краінай, якую паважаюць у сьвеце. Для таго, каб Беларусь стала такой краінай, трэба рабіць зьмены ў заканадаўстве, эканоміцы, зьнешняй палітыцы й палепшыць жыцьцё грамадзянаў краіны. «Пяцёрка плюс» прадстаўляе праграму такіх дзеяньняў, якая называецца «Пяць крокаў да лепшага жыцьця».

Выбары — важны этап для рэалізацыі гэтай супольнай праграмы. Менавіта таму «Пяцёрка плюс» пачала рыхтавацца да іх ужо

*(працяг на стар.4)*

# НАРОДНАЯ КААЛІЦЫЯ ПЯЦЁРКА ПЛЮС

Народ Беларусі мае права на дастойнае жыццё, на ўпэўненасць у будучыні, на ўрад, які сумленна выконвае свае абавязкі. Беларусь павінна быць незалежнай, дэмакратычнай і свабоднай краінай, якую паважаюць у свеце.

Дзеля гэтага мы — грамадзяне Беларусі, прадстаўнікі партыяў, грамадскіх і палітычных арганізацый — падпісваем пагадненне пра супрацоўніцтва. Мы ствараем новую адзіную сілу, здольную вырашыць галоўныя праблемы нашай краіны і яе людзей. Мы аб'ядноўваемся ў НАРОДНУЮ КААЛІЦЫЮ ПЯЦЁРКА ПЛЮС.

Наша пагадненне — гэта праграма канкрэтных справаў, якія мы пачынаем тут і зараз з мэтаю вывесці Беларусь з крызісу. Мы будзем працаваць разам дзеля пераменаў.

Мы звяртаемся да ўсіх людзей Беларусі, да партыяў, да грамадскіх арганізацый і рухаў, да тых, хто працуе ў дзяржаўных структурах: Ваша падтрымка НАРОДНАЙ КААЛІЦЫІ ПЯЦЁРКА ПЛЮС наблізіць перамены да лепшага.

Нас з Вамі большыня. Разам мы моцныя, разам мы вернем народу годнасць і дабрабыт, а нашай дзяржаве — росквіт і павагу.

Удзельнікі НАРОДНАЙ КААЛІЦЫІ ПЯЦЁРКА ПЛЮС распрацавалі канкрэтныя прапановы і законапраекты, каб палепшыць эканамічную сітуацыю ў краіне, падвысіць узровень жыцця ўсіх людзей. Незалежна ад палітычных перакананняў мы будзем разам дамагацца неадкладнай рэалізацыі сваёй праграмы.

Магістрат

**Заснавальнік:**
Віцебская рада Партыі БНФ
**Выдавец:**
Віцебская рада Партыі БНФ
**Рэдактар:**
К. Смолікаў
**Адказны за выпуск:**
Хведар Самагуд
**Дызайн:**
Сяржук Серабро
**Вёрстка:**
Сямён Залацец
**Дапамога:**
Віцебскае аддзяленьне Фонду імя Льва Сапегі й ЦМІ «Контур»
**Наклад:**
298 паасобнікаў

Рэдакцыя знаёміцца з карэспандэнцыяй, не ўступаючы ў перапіску.

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня.

Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных і агітацыйных мэтах


хутка вясна...

# ЭЎРАПЕЙСКІ ДОМ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Эўрапейскія краіны забясьпечылі сваім жыхарам бясьпечнае і ўтульнае жыцьцё, стабільную будучыню. Таму з усіх бакоў людзі імкнуцца да Эўропы. Амаль усе краіны нашага рэгіёну ставяць сабе за мэту ўступленьне ў Эўразьвяз.

А Беларусь?

Беларусь заўсёды была эўрапейскай краінай. Яе месца – ў сям'і эўрапейскіх народаў.

Каб забясьпечыць аднаўленьне і разьвіньцё нашай краіны, высокі ўзровень жыцьця для усяго народу, Партыя БНФ распрацавала праграму – **«Эўрапейскі дом для Беларусі».**

## Тры галоўныя накірункі працы Партыі БНФ:

1. **Эўрапейскі дабрабыт** - аднаўленьне эканомікі, падвышэньне заробкаў і якасьці жыцьця да сучаснага эўрапейскага ўзроўню.
2. **Эўрапейскае жыцьцё** - адбудова сацыяльнага забесьпячэньня, мэдычнага абслугоўваньня, адукацыі і культуры па эўрапейскіх стандартах. Беларусь павінна стаць утульным і бясьпечным домам.
3. **Эўрапейскія сябры** - добрыя адносіны з усімі суседзямі, але найперш – з заможнымі, стабільнымі і бяспечнымі краінамі Эўропы. Беларусь павінна стаць сябрам Эўразьвязу.

Просты й натуральны шлях да рэалізацыі праграмы «Эўрапейскі дом для Беларусі» – гэта выбары. Не дайце падмануць сябе – выбірайце праўдзівых дэпутатаў ад народа –дэпутатаў Партыі БНФ, тады Вам і Вашым дзецям яшчэ давядзецца пажыць у сьветлым і ўтульным доме – у еўрапейскім доме для Беларусі

## Чаму еўрапейскі выбар Беларусі?

**Еўропа,** еўрапейская цывілізацыя адвеку ёсьць натуральным месцам пражываньня беларускага народу.

**Еўрапейскі зьвяз** – гэта адзін зь нешматлікіх у сёньняшнім сьвеце астравоў міру і дабрабыту і бальшыня беларусаў адназначна раўняецца на еўрапейскія стандарты заробкаў, узроўню ды ладу жыцьця.

**Беларусь у Еўропе** – гэта адстутнасьць візаў для паездак амаль ва ўсе еўрапейская краіны, гэта гарантыя інвэстыцый у беларускую эканоміку, гэта магчымасьць для нашых дзяцей атрымліваць эўрапейскую адукацыю.

## Чаму Беларусь дасюль не ў Эўропе?
## Вінаватыя:

**Самаізаляцыя,** у якую Беларусь загнаная сёньняшнім кіраўніцтвам і якая балюча б'е па кожным беларусе, кожнай беларускай сям'і, па нашай будучыні і будучыні нашых дзяцей.

**Авантурызм** замежнай палітыкі, якая зводзіцца да гульняў з Расеяй і сяброўства з рэжымамі-ізгоямі.

**Няздольнасьць** уладаў распачаць працэс палітычнай дэмакратызацыі і эканамічных рэформаў.

**Несумленнасьць** уладаў, якія пазбавілі грамадзянаў Беларусі магчымасьці ўплываць на тое, што адбываецца ў краіне.

**Хцівасьць** уладнага клану, які цягам 10 гадоў бязьлітасна эксплюатуе і рабуе краіну.

## Чаму у Эўропу з Партыяй БНФ?

**Партыя БНФ** першай зь беларускіх палітычных партыяў заявіла ў сваёй праграме аб неабходнасьці ўступленьня Беларусі ў Эўразьвяз.

**Партыя БНФ** заўсёды пасьлядоўна адстойвала сапраўдныя інтарэсы жыхароў Беларусі, стаяла на варце незалежнасьці беларускае дзяржавы.

**Партыя БНФ** мае зразумелую, выканальную праграму для Беларусі, заснаваную на маральных каштоўнасьцях нашага народу, грунтоўных эканамічных распрацоўках прафэсіяналаў і вывучэньні досьведу нашых суседзяў.

**Партыя БНФ** мае шырокія кантакты і добрую рэпутацыю ў найбольш уплывовых палітычных і дзелавых колаў краінаў Захаду.

# ПЯЦЬ КРОКАЎ ДА ЛЕПШАГА ЖЫЦЦЯ

## 1. Дастойнае жыццё – кожнаму!

• **Плаціць па справядлівасці.** Прывесці ўзровень мінімальных заробкаў і пенсій у адпаведнасць з рэальным пражытковым мінімумам, які забяспечыць кожнаму чалавеку і кожнай сям'і дастойнае жыццё.

• **Абараніць пенсіянераў.** Забараніць падвышэнне пенсійнага ўзросту. Плаціць поўныя пенсіі працуючым пенсіянерам.

• **Нармальная плата за жыллё.** Прывесці аплату жылля і камунальных паслугаў у адпаведнасць з рэальнай платаздольнасцю людзей.

• **Забяспечыць эканамічны пад'ём.** Стварыць спрыяльныя ўмовы для працы прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці, спыніўшы бюракратычнае ўмяшанне ў эканоміку і цкаванне кіраўнікоў. Прыцягнуць інвестыцыі, аднавіўшы давер да Беларусі як да партнёра.

## 2. Даць людзям працаваць

• **Стымуляваць стварэнне новых працоўных месцаў.** Спрасціць рэгістрацыю суб'ектаў гаспадарання і грамадскіх арганізацый, забараніць іх перарэгістрацыю. Ліквідаваць непатрэбныя квоты, ліцэнзіі і дазволы.

• **Абараніць працоўных.** Адмяніць прымусовую сістэму найму па кантракце на дзяржаўных прадпрыемствах.

• **Спыніць паборы.** Забараніць дзяржаўным органам незаконна збіраць сродкі з суб'ектаў гаспадарання. Забараніць пераразлік раней выплачаных падаткаў.

## 3. Улада для народа

• **Адзін закон для ўсіх.** Забяспечыць рэальную роўнасць усіх перад Законам, незалежнасць і справядлівасць суда.

• **Не — трэцяму тэрміну!** Забяспечыць выкананне Канстытуцыі, якая абмяжоўвае знаходжанне на пасадзе прэзідэнта двума тэрмінамі.

• **Казаць людзям праўду.** Прыцягваць афіцыйных асобаў да адказнасці за ўтойванне інфармацыі альбо падачу непраўдзівых звестак, калі закранаюцца правы і інтарэсы грамадзянаў, за ціск на сродкі масавай інфармацыі.

• **Народнае самакіраванне.** Усталяваць выбарнасць кіраўнічых асобаў мясцовай адміністрацыі і іх поўную справаздачнасць перад выбаршчыкамі.

• **Прывесці закон аб выбарах у адпаведнасць з міжнароднымі нормамі.** Забяспечыць грамадскі кантроль за выбарамі і крымінальную адказнасць за фальшаванне вынікаў.

## 4. Дзяржаўныя грошы – на службу народу

• **Адкрыты бюджэт.** Забяспечыць празрыстасць бюджэту і яго падкантрольнасць парламенту. Дзяржаўныя структуры не павінны фінансавацца з невядомых крыніцаў.

• **Ліквідаваць незаконныя фонды.** Расследаваць факты незаконнага выкарыстання дзяржаўных сродкаў адміністрацыйнымі асобамі. Прыцягваць да адказнасці за стварэнне некантралюемых фондаў, за незаконную практыку крэдытавання і льготаў для асобных прадпрыемстваў.

• **Грошы — дзецям.** Скараціць выдаткі на апарат адміністрацыі і аховы Прэзідэнта і выкарыстаць гэтыя сродкі на сацыяльную дапамогу малазабяспечаным, шматдзетным і няпоўным сем'ям.

## 5. Павага ў свеце

• **Давер да Беларусі.** Адмовіцца ад палітыкі самаізаляцыі. Выконваць міжнародныя дамовы і абавязкі, аднавіць удзел ва ўсіх міжнародных структурах.

• **Сябраваць з суседзямі.** Наладзіць узаемавыгадныя сяброўскія адносіны з усімі суседнімі краінамі і з краінамі Еўрасаюзу.

• **Цывілізаваныя межы.** Забяспечыць грамадзянам Беларусі свабодны рух праз межы ўсіх суседніх краінаў.

# ЎЛАДЫ АДМОВІЛІ

З прапановаю па наданьні імя Васіля Быкава абласной бібліятэцы ў аблвыканкам зьвярнуліся сябры Таварыства беларускай мовы, падтрымалі гэтую ініцыятыву і жыхары Віцебску. Афіцыйнага адмоўнага адказу ад уладаў давялося чакаць некалькі месяцаў.

Адказ атрымала **Тамара Мамчыц**, якая стварыла ўласную ініцыятыўную групу ды зьбірала подпісы прыхільнікаў гэтае ідэі. У лісьце, падпісаным загадчыкам управы абласнога аддзелу культуры **Мікалаем Пашынскім** напісана: "...лічым нямэтазгодным перайменоўваць дзяржаўную ўстанову "Віцебская бібліятэка імя Леніна", бо гэта справакуе супрацьстаяньне вэтэранаў Вялікай Айчыннай вайны".

Сп-ня Мамчыц гэтага меркаваньня не падзяляе: "Упэўненая, што большасьць вэтэранаў падтрымала бы прапанову пра перайменаваньне бібліятэкі й наданьне ёй імя Быкава. Бо менавіта ён пісаў праўду пра вайну ды сам быў вэтэранам".

Даведаўшыся пра тое, што аблвыканкам адхіліў прапанову ТБМ, старшыня абласное рады **Іосіф Навумчык** сказаў: "З улікам таго, што ўлады адмаўляюцца сёлета перайменоўваць абласную бібліятэку імя Леніна ў бібліятэку імя Васіля Быкава, прадстаўнікі ТБМ выказалі яшчэ новую прапанову: надаць імя пісьменьніка адной з буйных бібліятэкаў вобласьці. Аднак мы не здымаем пытаньня пра перайменаваньне абласной бібліятэкі ў Віцебску".

Нягледзячы на адмову ўладаў, гэтае пытаньне віцебская грамадзкасьць ня лічыць вырашаным канчаткова. Тамара Мамчыц прапануе правесьці каля бібліятэкі шэраг пікетаў, каб сабраць подпісы прыхільнікаў перайменаваньня ды перадаць іх у аблвыканкам. Прычым подпісы прыхільнікаў-вэтэранаў спадарыня Мамчыц прапануе перадаць асобным сьпісам.

*Радыё Свабода, Бранiслава Станкевiч*

www.svaboda.org



# «ПЯЦЁРКА ПЛЮС» ПРЭЗЭНТУЕ...




*(працяг. Пачатак на стар.1)*

цяпер. Але важныя ня толькі месцы ў парлямэнце, але йрэальная падтрымка выбарнікаў — народу Беларусі. Удзельнікі «Пяцёркі плюс» упэўненыя, што грамадзтва чакае зьменаў, і будуць працаваць для таго, каб спраўдзіць гэтыя чаканьні.

Адной зь першых частак выбарчай стратэгіі «Пяцёркі плюс» ёсьць адзіны спіс кандыдатаў у дэпутаты на выбарах у Палату прадстаўнікоў, якія адбудуцца ў кастрычніку гэтага года.

Агульны сьпіс Народнай кааліцыі — гэта частка працы, якую «Пяцёрка плюс» праводзіла на працягу амаль паўгода. Палітычныя партыі, дэпутацкая група «Рэспубліка» і іншыя суб'екты грамадзка-палітычнага жыцьця Беларусі здолелі дамовіцца пра адзіную стратэгію на выбарах.

Мэта фармаваньня выбарчага сьпісу — паказаць грамадзянам Беларусі рэальную й моцную альтэрнатыву ўладзе. Вызначаныя 220 асобаў — па двое на выбарчую акругу — прафэсіяналаў у сваіх галінах дзейнасьці, здольных працаваць на карысьць грамадзтва, адстойваць свае погляды, прымаць у парлямэнце рашэньні, якія карысныя ня толькі для ўлады, але йдля ўсяго народу.

Людзі, якія ўвайшлі ў адзіны сьпіс «Пяцёркі плюс», ужо праявілі сябе ў грамадзка-палітычным жыцьці краіны. Яны давялі, што могуць і жадаюць працаваць на карысьць грамадзтва, абараняць інтарэсы грамадзянаў Беларусі ў сёньняшніх складаных умовах. Яны даказалі на справе сваю прынцыповасьць, мужнасьць і здольнасьць прымаць пісьменныя і ўзважаныя эканамічныя, гаспадарчыя, палітычныя і юрыдычныя рашэньні.

Мы разумеем, што ўлада ўсімі сродкамі будзе спрабаваць перашкодзіць рэгістрацыі, вылучэньню ды абраньню нашых кандыдатаў у прадстаўнічыя органы ўлады. Тым ня менш, мы будзем весьці барацьбу за месцы ў парлямэнце ўсімі сродкамі, якія дазволеныя беларускім заканадаўствам.

Мы будзем рабіць усё, каб парлямэнт быў сапраўды народным — не прызначаным, а абраным.

**www.5plus.info**
**5plus@tut.by**
**5plusinfo@tut.by**